БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Belarusian Collegium

# HOMO HISTORICUS 2016

## The Annual of Anthropological History

Edited by Aliaksandr Smalianchuk,
Doctor in History

Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# ПРАДМОВА

Чарговы том гадавіка «Homo Historicus» выходзіць дзякуючы падтрымцы Беларускага калегіума і Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера». Змяніўся фармат выдання, але ягоная канцэпцыя засталася без зменаў.

Гэты выпуск працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) і па-ранейшаму арыентаваны на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага з характэрнай для яго канцэнтрацыяй увагі на трансфармацыях у галіне культуры, палітыкі і сацыяльных адносінаў; з арыентацыяй на міждысцыплінарнасць і метадалагічнае разняволенне даследаванняў па гісторыі праз выкарыстанне напрацовак сучаснай гуманістыкі, а таксама на рэфлексію гісторыка над уласнымі даследчымі метадамі і значэннем тых ведаў, якія ён стварае.

Адной з дамінуючых тэмаў чарговага тома «Homo Historicus» з'яўляецца феномен памяці ў самым шырокім яго разуменні. У прыватнасці, гэта праблема ролі гісторыкаў і архівістаў у канструяванні памяці, афармленне міфа «полацкай свабоды» ў XV–XVI стст., «нараджэнне» могілак у выніку рэформы месцаў пахавання канца XVIII – пачатку XIX ст., ацэнка значэння спадчыны ВКЛ у ідэалогіі паўстання 1830–1831 гг., спроба расейскіх уладаў другой паловы XIX ст. трансфармаваць гістарычную памяць жыдоўскай супольнасці Беларусі і Літвы, імкненне нацыстаў знішчыць сляды Халакосту ў Беларусі («Аперацыя 1005») ды інш. Таксама на старонках гэтага тома атрымала працяг

традыцыйная для «Homo Historicus» праблематыка нацыянальных працэсаў пачатку XX ст. на тэрыторыі “гістарычнай Літвы”, звязаная са стасункамі паміж літоўскім і беларускім нацыянальнымі рухамі.

Матэрыялы раздзела “Вусная гісторыя” знаёмяць з праблемамі развіцця гэтага даследчага кірунку ў Польшчы, з адлюстраваннем у памяці беларусаў трагедыі Халакосту і яго прычынаў, а таксама ўтрымліваюць аўтабіяграфічны аповед Сяргея Яноўскага (1925–2010), жыццё якога з’яўляецца выдатнай ілюстрацыяй трагічнага лёсу беларускай нацыі ў XX стагоддзі.

Таксама хачу адзначыць, што прыняты рэдакцыяй тэрмін «антрапалагічная гісторыя» з'яўляецца запрашэннем да супрацоўніцтва, адрасаваным гісторыкам, спецыялістам з галіны метадалогіі гісторыі і гістарыяграфіі, літаратуразнаўцам і культурным антраполагам ды інш. Адмовай ад больш традыцыйнага тэрміна «гістарычная антрапалогія» яшчэ раз звяртаем увагу на важнасць для беларускай гістарыяграфіі праблемы «ачалавечвання гісторыі».

Алесь Смалянчук